# КРЫНІЦА

№8 (32) ЛІСТАПАД 2012 www.bchd.info




# Адбыўся ўстаноўчы з'езд «Маладых Хрысціянскіх Дэмакратаў»

**У Менску 3 лістапада адбыўся ўстаноўчы з'езд грамадскай арганізацыі «Маладыя Хрысціянскія Дэмакраты».**

Падчас зезду была абраная старшыня МХД, якой стала каардынатарка кампаніі байкоту выбараў у 2012 годзе Марына Хоміч. Яе намеснікамі сталі Вольга Кавалькова і Вікторыя Радзіеўская. Таксама былі абраныя Рада ў складзе дзевяці чалавек і Рэвізійная камісія ГА «МХД».

Удзельнікі з'езду, агулам 75 чалавек, зацвердзілі статут арганізацыі і праграму яе далейшай дзейнасці, у тым ліку у межах кампаній за сямейныя каштоўнасці, за папулярызацыю беларускай мовы і культуры, у падтрымку палітвязняў, кампаніі «Ад байкоту «выбараў» да байкоту рэжыму», якая прадугледжвае сярод іншага байкот дзяржаўных СМІ, праўладных прафсаюзаў і г.д. Для большай празрыстасьці рэгістрацыя заснавальнікаў ГА «МХД» праходзіла пад прыцэлам відэакамеры.

МХД ёсць свецкім і нерэлігійным рэспубліканскім моладзевым грамадкім аб'яднаннем, якое аб'ядноўвае грамадзян на добраахвотных пачатках для сумеснай рэалізацыі грамадзянскіх, сацыяльных, культурных і іншых правоў. Сярод асноўных мэтаў і задач МХД: стварэнне ўмоў для ўсебаковага развіцця моладзі, раскрыццё яе творчага патэнцыялу, садзеянне развіццю ў Беларусі грамадзянскай супольнасці, заснаванай на патрыятычных і грамадзянска-духоўных каштоўнасцях беларускага народа, абарона правоў і свабод моладзі. МХД мае намер садзейнічаць актыўнаму ўдзелу моладзі ў будо-

*Працяг на стр. 2*

*Працяг. Пачатак на стр. 1*

ве грамадзянскай супольнасьці і прававой дзяржавы, фармаванню актыўнай грамадзянскай пазіцыі моладзі, прававой адукацыі, прапагандзе здаровага ладу жыцця і хрысціянска-дэмакратычных каштоўнасцей сярод моладзі.

Перад удзельнікамі з’езду выступілі сустаршыня БХД Віталь Рымашэўскі, які заклікаў маладых хрысьціянскіх дэмакратаў быць не проста “рукамі і нагамі” сваіх старэйшых калегаў з БХД, а рабіцца лідарамі, прапаноўваць новыя ідэі і выпраўляць недахопы.

«Мы і ніхто іншыя адказныя за нашу краіну, і ад нас залежыць, калі Беларусь стане вольнай і дэмакратычнай», - адзначыў адказны сакратар БХД Дзяніс Садоўскі.

Таксама перад удзельнікамі з’езду быў зачытаны зварот сустаршыні БХД, палітвязня Паўла Севярынца.

Віншаванні ўдзельнікам з’езду накіравалі старшыня моладзевага аддзялення Хрысціянска-дэмакратычнай партыі Нарвегіі Элізабэт Лёланд і лідар нямецкага Junge Union Філіп Місфэльдэр, якія выказалі надзею на змены ў Беларусі і падтрымалі сваіх беларускіх калегаў.




Апроч таго, на зьезьдзе выступіў прадстаўнік Маладых Дэмакратаў АГП Дзмітрый Кавалгін, які адзначыў плённае супрацоўніцтва паміж арганізацыямі падчас «Выбараў-2012» і выказаў надзею на супрацу ў далейшым. У сваю чаргу Уладзь Яроменак з Маладога Фронту зазначыў, што «ў сённяшніх умовах змены ў Беларусі магчымыя толькі пры суцэльным яднанні ўсіх дэмакратычных сілаў краіны». «І я перакананы, што гэтае яднанне пачнецца менавіта з моладзі і будзе грунтавацца менавіта на хрысціянскіх каштоўнасцях», - сказаў ён.

# Марына Хоміч: «Нам трэба даносіць нашу пазітыўную праграму да моладзі»



**Новае грамадскае аб’яднанне «Маладыя хрысціянскія дэмакраты», устаноўчы з’езд якога адбыўся ў Менску 3 лістапада, узначалілі жанчыны.**

Старшынёй МХД абрана 23-гадовая Марына Хоміч. Яна скончыла Беларускі дзяржаўны педагагічны ўніверсітэт па спецыяльнасці «беларуская філалогія».

Пасля свайго абрання Марына Хоміч акрэсліла некаторыя прыярытэтныя задачы новай арганізацыі.

«Найвялікшая праблема зараз у Беларусі — гэта наяўнасць палітзняволеных. Два нашых лідара, Павал Севярынец і Яўген Васьковіч, зараз знаходзяцца за кратамі, і мы абавязаны змагацца за іх вызваленне», — заявіла Хоміч.

З яе словаў, маладыя хрысціянскія дэмакраты павінны пачаць кампанію за абарону беларускай мовы, актыўна працаваць са студэнтамі і моладзю, якая навучаецца. «Мы ведаем, што на выбары перад усім прыйшла моладзь. Іх заганялі з універсітэтаў і інтэрнатаў, але тое, што яны паддаліся ўплыву — гэта таксама наша недапрацоўка. Нам трэба арганізаваць свае структуры ў кожным інтэрнаце ці навучальнай установе», — заявіла старшыня новага аб’яднання.

Важным накірункам працы, з яе словаў, будзе міжнародная дзейнасць. Ужо зараз МХД мае добрыя кантакты з нямецкімі і нарвежскімі хрысціянскімі дэмакратамі, і трэба развіваць гэту працу надалей, адзначыла Хоміч.

«Безумоўна, нам трэба супрацоўнічаць і з аргкамітэтам па стварэні партыі «БХД», у нас шмат магчымасцяў для ўдзелу ў іх кампаніях. У прыватнасці, як адзначыў Севярынец у сваім звароце да нас, штогод у Беларусі адбываецца 30 тысяч абортаў. Мы павінны далучыцца да кампаніі супраць абортаў і да кампаніі «Моцная сям’я – моцная Беларусь», — мяркуе Хоміч.

«Цягам апошняга часу мы шмат гаворым супраць чаго мы выступаем, але не гаворым пра тое, што мы прапаноўваем. Нам трэба даносіць нашу пазітыўную праграму да моладзі», — падкрэсліла лідар арганізацыі.

# Зварот Паўла Севярынца да З'езду Маладых Хрысціянскіх Дэмакратаў



**Прадстаўляем вашай увазе зварот сустаршыні Беларускай Хрысціянскай Дэмакратыі, палітвязня Паўла Севярынца да ўзельнікаў Устаноўчага з'езду Маладых Хрысціянскіх Дэмакратаў.**

**Зварот Паўла Севярынца да З'езду МХД:**

«Прывітаньне, мае дарагія сябры, удзельнікі ўстаноўчга зьезду Маладых Хрысьціянскіх Дэмакратаў!

Ёсьць у нас такая прыкмета – той, хто зачытвае пасланьне сустаршыні БХД, неўзабаве сам стане сустаршынём.

Шаноўныя Маладыя Хрысьціянскія Дэмакраты! Сьпярша паведамлю вам некалькі важных рэчаў. У Беларусі менш за палову маладых ва ўзросьце 14-30 гадоў вераць у Бога. У Беларусі ўсяго толькі некалькі адсоткаў моладзі размаўляюць па-беларуску. У Беларусі штогод адбываецца 30 тысячаў забойстваў ненароджаных дзяцей, і ў асноўным сярод моладзі. У Беларусі большасьць, задумайцеся, большасьць моладзі злоўжывае алкаголем і лічыць распусту нормай. Беларусь – адна зь першых краінаў у сьвеце па колькасьці самазабойстваў, таксама найперш сярод маладых. Госпад даў вам – кожнаму з вас! – жыць у краіне нацыянальнага пафігізму, піўнога алкагалізму і бытавога крыміналу.

І для кожнага з вас, як для беларускага хрысьціянскага дэмакрата, пералік такіх фактаў – гэта асабісты выклік. Чалавеку справіцца з гэтым немагчыма.

Але ўсё магчыма Госпаду. Вось чаму быць хрысьціянскім дэмакратам не азначае быць да 20:00 хрысьціянінам, а пасьля 20:00 – дэмакратам. Быць хрысьціянскім дэмакратам азначае быць вобразам і падабенствам Божым 24 гадзіны ў суткі. Беларуская Хрысьціянская Дэмакратыя – не партыя, якая расказвае насельніцтву казкі пра хрысьціянскія прынцыпы ў палітыцы ў якасьці заманухі. Хрысьціянская Дэмакратыя – гэта рэальная ўлада Народу Божага. Яна азначае, што мы імкнемся, каб у гэтай краіне кіравалі не тыя, хто ўмее хутчэй утаптаць бліжняга ў бруд, а тыя, хто верыць у Бога і любіць Беларусь.

Госпад пасылаў сваіх вучняў як авечак сярод ваўкоў. Але яны зьмянілі гэты сьвет – хто мужнасьцю, хто мудрасьцю, хто адвагай, хто ахвярай. Няхай ніхто з вас не баіцца – ані Лукашэнкі, ані Расеі, ані кпінаў, ані здрадаў, ані ворагаў, ані д'ябла. Бойся Бога і больш нікога – гэта наш дэвіз.

70 гадоў таму аднаго з заснавальнікаў БХД ксяндза Вінцэнта Гадлеўскага гітлераўцы забралі пасьля Імшы ад касьцёлу і расстралялі ў Трасьцянцы. Праз некалькі гадоў у сталінскім ГУЛАГу быў зьнішчаны другі лідар БХД – Адам Станкевіч. Не забывайцеся: за тое, каб мы маглі зараз называцца Беларускімі Хрысьціянскімі Дэмакратамі, людзі аддавалі жыцьцё.

Поле вашай працы – гэта мільёны маладых беларусаў 14-30 гадоў, якія сьпіваюцца і забіваюць сваіх дзетак, якія ня лічаць сябе беларусамі, якія па плечы ў зьле.

Страшна? Ня бойцеся.

Нам трэба іх выцягнуць.

Вашае сэрца адкрыта для многіх жаданьняў, ідэяў і парываў. Дам вам толькі адну параду: найперш, адкрывайце яго для Госпада. Імя Хрыстовае ў імені Маладыя Хрысьціянскія Дэмакраты – гэта найвялікшая адказнасьць, якую толькі можна ўявіць у палітыцы. Ніколі не забывайцеся пра гэта.

З досьведу самага масавага і пасьпяховага руху ў найноўшай гісторыі Беларусі – Маладога Фронту – параю вам найперш быць дзейснымі. Для моладзі менавіта дзеньне – сігнал: далучайся! Крэатыўныя акцыі, раздачы ўлётак і флаераў, вандроўкі і пілігрымкі – вырашайце самі, які, галоўнае – рух: пад сьцягам Хрыста да Самога Хрыста!

Стаўцеся да Партыі БХД як да хай сабе і старэйшых, але братоў. Ваш тыл – гэта царква, касьцёл і малітоўны дом. Ваш хаўрусьнік нумар адзін сярод моладзі – Малады Фронт, заснаваны на гэткіх жа хрысьціянскіх прынцыпах. Вы непазьбежна прыйдзеце на зьмену нашаму пакаленьню – і ў партыі, і ў Беларусі. І я веру, што гэта вы будзеце сярод пераможцаў, якія падымуць па-над Беларусьсю наш сьвяты бел-чырвона-белы сьцяг.

Жыве Беларусь! Жыве з Богам!»

# Георгі Дзмітрук у Кіеве ўзяў удзел у малітоўным сняданку ў Вярхоўнай Радзе




**Сустаршыня аргкамітэта па стварэнні Партыі «Беларуская Хрысціянская Дэмакратыя» Георгі Дзмітрук 17-18 кастрычніка падчас свайго візіту ва Украіну ўзяў удзел у другім Усеўкраінскім нацыянальным малітоўным сняданку, які прайшоў у Вярхоўнай Радзе ў Кіеве.**

Адным з арганізатараў сняданку выступіў Хрысціянска-Дэмакратычны Саюз Украіны. Праходзіў ён пад патранатам Вярхоўнай Рады і асабіста яе старшыні Уладзіміра Літвіна. Удзел у малітоўным сняданку прынялі чальцы ўсіх фракцыяў Вярхоўнай Рады, кіраўнікі практычна ўсіх канфесій Украіны, прадстаўнікі Еўрапейскага Саюзу ды іншыя. Вітальны ліст удзельнікам накіраваў прэзідэнт Украіны Віктар Януковіч.

«Падчас сняданку палітыкі і прадстаўнікі канфесій паказалі ўсяму ўкраінскаму грамадству, што ўсе яны зацікаўленыя ў міры ў краіне», – адзначыў Георгі Дзмітрук.

Падчас сняданку сустаршыня БХД сустрэўся з шэрагам украінскіх палітычных і рэлігійных дзеячоў, у тым ліку з патрыярхам Кіеўскім Філарэтам і дарадцам прэзідэнта Украіны Ганнай Герман. Патрыярх Філарэт паабяцаў маліцца за сітуацыю ў Беларусі і за беларускіх палітвязняў, асабліва за палітвязняў-хрысціянаў. Між тым Ганна Герман выказала сваю заклапочанасць сітуацыяй у Беларусі, заявіўшы пра неабходнасць супрацоўніцтва і ўзаемапаразумення.

Да таго ж прадстаўнікі Украіны і іншых еўрапейскіх краін паабяцалі пасадзейнічаць правядзенню падобнага малітоўнага сняданку ў Беларусі, дзе б кіраўнікі канфесій, грамадскіх арганізацый і палітыкі маглі б прыйсці да згоды, дамовіцца аб прымірэнні і супрацоўніцтве.

Таксама Георгі Дзмітрук узяў удзел у Кіеве ў канферэнцыі ў абарону сям’і, у якой удзельнічалі ўкраінскія дэпутаты, прадстаўнікі разнастайных ведамстваў, канфесій, віцэ-прэм’ер Украіны Сяргей Цігіпка і іншыя.

«Гэтая канферэнцыя паказала, якую вялікую ўвагу ва Украіне надаюць абароне сям’і», – падкрэсліў сустаршыня БХД.

# Георгі Дзмітрук узяў удзел у 12-м нацыянальным малітоўным сняданку ў Вільні

**Сустаршыня Беларускай Хрысціянскай Дэмакратыі Георгі Дзмітрук 9 лістапада ўзяў удзел у 12-м нацыянальным малітоўным сняданку, які прайшоў у Вільні.**



Сярод удзельнікаў малітоўнага сняданку былі былы кіраўнік Літвы, еўрадэпутат Вітаўтас Ландсбергіс, міністр абароны Літвы Раса Юкнявічэне, пасол Літвы ў Менску Лінас Лінкявічус, літоўскія дэпутаты, лідары каталіцкай і пратэстанцкіх канфесій у Літве, замежныя госці.

Падчас малітоўнага сняданку сярод іншага адбылася і малітва за палітвязняў у Беларусі.

# Зьмітра Дашкевіча перавезлі ў гарадзенскую турму



**Лідар «Маладога фронту» і сябар БХД Зміцер Дашкевіч 8 лістапада прыбыў у гарадзенскую турму № 1. Гэтую інфармацыю пацвердзілі ў адміністрацыі турмы.**

Сябры Дашкевіча мяркуюць, што, хутчэй за ўсё, яго даставілі ў Гародню ў начы з 7 на 8 лістапада.

Пра тое, што палітвязень 7 ці 8 лістапада павінен быць дастаўлены ў гарадзенскую турму, Анастасіі Палажанцы паведамілі ў мінулы аўторак.

Першапачаткова лідар «Маладога фронту» адбываў пакаранне ў калоніі ў Горках (Магілёўская вобласць), затым яго перавялі ў Глыбокае (Віцебская вобласць). 28 жніўня Глыбоцкі раённы суд на закрытым выязным пасяджэнні ў калоніі прызнаў Дашкевіча вінаватым у злосным непадпарадкаванні патрабаванням адміністрацыі калоніі і асудзіў яго на год пазбаўлення волі. У тэрмін пакарання ўключаныя чатыры месяцы, якія апазіцыянеру заставалася адбыць у калоніі па першай крымінальнай справе. Дашкевіча перавялі ў мазырскую калонію № 20.

Зміцер Дашкевіч быў затрыманы разам з яшчэ адным актывістам «Маладога фронту» Эдуардам Лобавым у Менску 18 снежня 2010 года па абвінавачванні ў збіцці двух мужчын. Прадстаўнікі апазіцыі і праваабаронцы расцанілі іх арышт як прэвентыўную меру па «зачыстцы» грамадства перад выбарамі. У сакавіку 2011 года суд прызнаў Дашкевіча вінаватым, прысудзіўшы яго да двух гадоў пазбаўлення волі ў калоніі агульнага рэжыму. Міжнародныя праваабарончыя арганізацыі прызналі Дашкевіча палітвязнем.

30 кастрычніка суд Мазырскага раёна зноў прызнаў Дашкевіча злосным парушальнікам рэжыму і прыняў рашэнне аб яго пераводзе ў турму.

# Яўгену Васьковічу вынеслі папярэджанне






**Сябру аргкамітэта Беларускай Хрысціянскай Дэмакратыі, палітвязню Яўгену Васьковічу, які на пачатку кастрычніка адбыў сем дзён у карцары магілёўскай турмы дысцыплінарная камісія вынесла чарговае папярэджанне. Разам з тым, было вырашана пакуль яго не накіроўваць у ШІЗА.**

Яўген Васьковіч таксама патлумачыў, чаму падчас свайго знаходжання ў ШІЗА адмаўляўся сустракацца з адвакатам. Паводле яго словаў, гэта была форма пратэсту супраць незаконнага змяшчэння ў карцар. Такім чынам, палітвязень абверг чуткі пра тое, што ён адмовіўся ад адваката.

Пасля выхаду з ШІЗА да Яўгена зноў пачалі даходзіць лісты ад сваякоў. Настрой у палітвязня пазітыўны, хваробаў няма, адчувае сябе здавальняюча.

Тым часам бабруйскія актывісты Беларускай Хрысціянскай Дэмакратыі і прафсаюза РЭП наведалі хворую стрыечную бабулю палітвязня, якая не мае сваіх дзяцей і нядаўна зламала тры рэбрыны.

Актывісты перадалі ёй пачастункаў і дапамаглі прыбрацца ў кватэры.

# У Гомелі прайшла абласная канферэнцыя БХД



**Гомелі 20 кастрычніка прайшла абласная канферэнцыя аргкамітэта па стварэнні Партыі «Беларуская Хрысціянская Дэмакратыя». У ёй удзельнічалі больш за 20 прадстаўнікоў аргкамітэта з Гомеля і Гомельскай вобласці, а таксама кіраўніцтва БХД: сустаршыня Віталь Рымашэўскі і адказны сакратар Дзяніс Садоўскі.**

На канферэнцыі былі абмеркаваныя вынікі кампаніі «Байкот-2012», яе значэнне для партыі, а таксама пытанні далейшай дзейнасці БХД. У прыватнасці, была зацверджана актывізацыя працы ў межах кампаніі Рада народных дэпутатаў, правядзенне лакальных кампаній як у Гомелі, гэтак і ў Гомельскім рэгіёне. Таксама была зацверджана актывізацыя кампаніі «Моцная сям’я – моцная Беларусь», у межах якой працягваецца збор подпісаў за змены ў Закон аб ахове здароўя. Запланаваны шэраг акцый і мерапрыемстваў у абарону традыцыйных сямейных каштоўнасцяў.

Таксама ўдзельнікі абмеркавалі пытанне чарговай спробы легалізацыі дзейнасці БХД ў выглядзе рэгістрацыі недзяржаўных мясцовых грамадскіх арганізацый ва ўсіх рэгіёнах Беларусі для стварэння магчымасці легальнай дзейнасці сяброў БХД. Адпаведныя ўстаноўчыя сходы маюць адбыцца напрыканцы 2012 - пачатку 2013 году.

Як адзначыў Дзяніс Садоўскі: «Прыемна было бачыць на сустрэчы новых асобаў, якія далучыліся падчас кампаніі байкоту і іншых кампаній БХД. Гэта значыць, што стратэгія была абраная правільная і да аргкамітэта працягваюць далучацца новыя людзі».

# У Віцебску прайшоў Устаноўчы сход ГА «Хрысціянскія дэмакраты Віцебшчыны»

**У Віцебску 27 кастрычніка прайшла абласная канферэнцыя аргкамітэта па стварэнні партыі «Беларуская Хрысціянская Дэмакратыя». У ёй удзельнічала больш за 30 чалавек з 12-і раённых структур БХД Віцебскай вобласці, а таксама кіраўніцтва аргкамітэта.**

На канферэнцыі была дадзена адзнака дзейнасці сяброў аргкамітэта падчас кампаніі байкоту, прааналізаваныя плюсы і мінусы дзейнасці, абмеркаваны далейшы план працы віцебскіх актывістаў, у тым ліку ў межах кампаніі «Моцная сям’я – моцная Беларусь» і Рады народных дэпутатаў.



Напрыканцы канферэнцыі ў сувязі з узмацненнем рэпрэсій супраць актывістаў БХД з боку ўладаў за дзейнасць ад імя незарэгістраванай арганізацыі (пастаноўка на ўлік у КДБ Алега Аксёнава), быў праведзены ўстаноўчы сход грамадскай арганізацыі «Хрысціянскія дэмакраты Віцебшчыны». На сходзе былі зацверджаныя ўсе неабходныя дакументы, якія на працягу месяцу будуць пададзеныя для рэгістрацыі арганізацыі. Такія сходы плануецца праводзіць і ў іншых рэгіёнах Беларусі для больш шырокай прававой абароны сяброў БХД.

# У Гародні прайшла абласная канферэнцыя БХД

**У Гародні 4 лістапада адбылася абласная канферэнцыя аргкамітэту Беларускай Хрысціянскай Дэмакратыі. У ёй удзельнічалі прадстаўнікі дзесяці раёнаў Гарадзенскай вобласці, а таксама сустаршыня БХД Віталь Рымашэўскі.**

Падчас канферэнцыі былі абмеркаваныя планы далейшай дзейнасці аргкамітэту, лакальныя кампаніі, а таксама вынікі апошняй паітычнай кампаніі – байкот «парламенцкіх выбараў-2012».



# Сябры БХД узялі ўдзел у масавым шэсці «Дзяды»







**У Менску 28 кастрычніка прайшлі шэсце і мітынг ушанавання памяці ахвяр сталінізму, прымеркаваныя да дня памінання продкаў — Дзяды. У традыцыйнай акцыі ўзялі ўдзел каля 500 чалавек. Яны не толькі ўшаноўвалі памяць ахвяраў, але і выступалі з пратэстам супраць будаўніцтва ў ахоўнае зоне мэмарыяла «Курапаты» забаўляльнага цэнтра «Бульбаш-хол».**

Актывісты Беларускай Хрысціянскай Дэмакратыі, у тым ліку сустаршыня аргкамітэта Віталь Рымашэўскі, ўзялі ўдзел у масавым шэсці «Дзяды», якое прайшло па вуліцах Менску ад гадзіннікавага заводу да ўрочышча Курапаты, дзе ў 1930-1940-я гады камуністычнымі ўладамі былі растраляныя дзясяткі тысяч чалавек.

# БХД ЗАКЛІКАЕ ПРЫЗНАЦЬ 7 ЛІСТАПАДА ДНЁМ ПАМЯЦІ АХВЯРАЎ КАМУНІЗМУ

**Беларуская Хрысціянская Дэмакратыя 7 лістапада выступіла са зваротам да грамадзянаў Беларусі з заклікам прызнаць 7 лістапада Днём памяці ахвяраў злачыннага камуністычнага рэжыму, днём памяці генацыду беларускага народа.**



## *Зварот*

*Беларуская Хрысціянская Дэмакратыя заклікае прызначыць 7 лістапада Днём памяці ахвяраў злачыннага камуністычнага рэжыму, днём памяці аб генацыдзе беларускага народу.*

*Камуністычны пераварот , што адбыўся 7 лістапада 1917 году, паклаў пачатак вынішчэнню мільёнаў нявінных людзей ва ўсім свеце. Камуністычны рэжым, які акупаваў Беларусь, паслядоўна праводзіў вынішчэнне беларускага народа. Вынішчалася эліта, вынішчаліся простыя людзі. Сотні тысяч нявінных людзей былі забітыя ў савецкіх канцэнтрацыйных лагерах, расстраляныя ў лясах па ўсёй Беларусі. Болей за мільён беларусаў былі сасланыя ў канцлагеры на поўнач СССР. Камуністычны ўрад паслядоўна праводзіў палітыку вынішчэння беларускай культуры і беларускай мовы.*

*Па маштабах рэпрэсій і наступстваў для Беларусі камуністычны рэжым СССР можна параўнаць толькі з нацысцкім рэжымам.*

*Мы вымушаныя канстатаваць, што сённяшнія беларускія ўлады працягваюць палітыку савецкага ўраду. Працягваецца ўшанаванне савецкіх святаў, за ўзор ставяцца асобы Леніна і Сталіна – сапраўдных катаў беларускага народу. Святкаванне 7 лістапада як дзяржаўнага свята Рэспублікі Беларусь – сапраўдны здзек з памяці мільёнаў ахвяраў, з памяці нацыянальных герояў Беларусі.*

*Беларуская Хрысціянская Дэмакратыя заклікае ўсіх неабыякавых людзей Беларусі, усе дэмакратычныя беларускія арганізацыі падтрымаць ініцыятыву аб ушанаванні 7 лістапада як Дня памяці генацыду беларускага народа камуністычным рэжымам.*

*Мы заклікаем у гэты дзень не далучацца да афіцыйных «святкаванняў», ушанаваць памяць ахвяраў камунізму, распаўсюджваць інфармацыю пра злачынствы ўраду СССР на Беларусі.*

*Толькі да тых часоў, пакуль ў народзе будзе жыць памяць пра сапраўдных нацыянальных герояў, будзе жыць памяць пра нявінных ахвяраў нашых продкаў, – будзе існаваць беларуская нацыя, будзе жыць Беларусь.*

*Жыве Беларусь!*

# Адкрыты рахунак для збору сродкаў на ўсталяванне помніку Вінцэнту Гадлеўскаму ў Трасцянцы



У Менску 30 кастрычніка прайшла прэс-канферэнцыя, прысвечаная 70-годдзю з дня расстрэлу беларускага нацыянальнага лідара ксяндза Вінцэнта Гадлеўскага. У ёй удзельнічалі Дзяніс Садоўскі (Беларуская Хрысціянская Дэмакратыя), Валерыя Чарнаморцава (кампанія «Пакаянне»), Алесь Кіркевіч (Малады Фронт), Галіна Сіўчык і іншыя.

У межах кампаніі ўшанавання памяці Вінцэнта Гадлеўскага ўжо распрацаваныя шыльды, якія плануецца павесіць у месцах, звязаных з жыццём і дзейнасцю Гадлеўскага ў Вільні, Менску, Жодзішках.

Таксама праводзіцца збор подпісаў аб перайменаванні назваў савецкіх вуліц у гонар святара ў гарадах, дзе ён служыў. Такі збор подпісаў ідзе ў Глыбокім, Мёрах, Гародні і Слоніме. Да таго ж былі надрукаваныя календары і плакаты ў памяць пра Вінцэнта Гадлеўскага і Адама Станкевіча, запушчаны сайт, прысвечаны ўшанаванню памяці святароў – http://data.zmk-by.org/.

Разам з тым, у Трасцянцы, месцы расстрэлу гестапаўцамі Вінцэнта Гадлеўскага, плануецца ўсталяваць помнік. **Аргкамітэт БХД заклікае ўсіх неабыякавых ахвяраваць сродкі на ўсталяванне мемарыялу беларускаму нацыянальнаму лідару: ф-л 514 ААТ «ААБ Беларусбанк», УНП 100420097, код банка 614, р/р 3819382102369. Абавязкова пазначаць у назначэнні: ахвяраванне на дабрачынны рахунак №.000001.**

Напрыканцы 2012 году адбудзецца навукова-практычная канферэнцыя, прысвечаная Вінцэнту Гадлеўскаму, а 24 снежня ў 70-ю гадавіну гібелі святара пройдуць мемарыяльныя мерапрыемствы.

«Галоўная задача аргкамітэта па ўшанаванні памяці пакутнікаў – вярнуць Беларусі імёны Внцэнта Гадлеўскага і Адама Станкевіча, якія ў самыя цяжкія часы заставаліся лідарамі беларускага нацыянальнага руху», - адзначыў Дзяніс Садоўскі.

***Даведка:***

***Адам Станкевіч*** — заснавальнік БХД, грамадскі, палітычны і рэлігійны дзеяч, гісторык, пісьменнік, выдавец. У 1917 годзе адным з першых перайшоў да казанняў пабеларуску падчас набажэнстваў. Загінуў у ГУЛАГу 29 лістапада 1949. У гэтым годзе — 120 гадоў з дня нараджэння Адама Станкевіча.

***Вінцэнт Гадлеўскі*** — адзін з заснавальнікаў БХД, грамадскі і палітычны дзеяч, перакладчык Новага Запавету на беларускую мову. Расстраляны нацыстамі ў Трасцянцы. Сёлета — 70 гадоў з дня смерці Вінцэнта Гадлеўскага – 24 снежня 1942 г.

# Віншуем! 85 гадоў таму БХД стала партыяй!

**6 лістапада 1927 года ў Вільні беларускія хрысціянска-дэмакратычныя актывісты правялі ўстаноўчы сход партыі «Беларуская Хрысціянская Дэмакратыя», якая стала пераемніцай заснаванай у траўні 1917 году Беларускай хрысціянска-дэмакратычнай злучнасці.**



У 2-й праграме, прынятай на Сходзе дэклараваласа, што «БХД імкнецца да самастойнасці беларускага народа на ўсіх яго землях, аб'яднаных у незалежную дэмакратычную рэспубліку».

Ад 1927 году сябрамі партыі, паводле зменаў у Статуце, маглі быць не толькі каталікі, але і праваслаўныя. Гэты крок даў БХД магчымасць стаць адным з лідараў сярод партый Заходняй Беларусі.

# Виталий Рымашевский. Преступления коммунистов в Беларуси. Свидетельства очевидцев




## Празднование 7 ноября как государственного праздника Республики Беларусь — надругательство над памятью миллионов жертв, над памятью национальных героев Беларуси.

Коммунистический переворот 7 ноября 1917 года для нашей страны означает только одно: начало массового уничтожения белорусов, последовательное уничтожения белорусской культуры, белорусской нации.

Приход коммунистов на территорию Беларуси положил начало кровавому террору. Уничтожалось элита, уничтожались простые люди. Сотни тысяч невинных людей были убиты в советских концентрационных лагерях, расстрелянны в лесах по всей Беларуси. Больше миллиона белорусов были сосланы в концлагеря на север СССР.

За довоенный период было убито около 90% сотрудников Белорусской академии наук, большинство преподавателей БГУ, работников театра оперы и балета, государственной филармонии, было репрессировано около 500 литераторов. При том, что число белорусского населения на тот момент составляло менее 5% от населения СССР. Во время пика репрессий за август 1937 — ноябрь 1938 гг. только в минском НКВД было расстреляно более 10 тысяч человек.Были дни, когда расстреливали по 200-250 человек, особенно по поводу советских праздников.

По масштабам репрессий и последствиям для Беларуси коммунистический режим СССР можно сравнить только с нацистским режимом.

За время существования СССР было репрессировано около двух миллионов белорусов.

Это статистика, за которой ужасающие трагедии человеческих судеб, страшные пытки в НКВД и КГБ, убийства невинных людей, смерти сотен тысяч детей от голода и морозов в сибирских концлагерях...

В преддверии 7 ноября много было сказано сторонниками коммунистического режима в Беларуси, современными почитателями палачей белорусского народа — Ленина и Сталина.

Но ни в одном СМИ не было предоставлено слово жертвам советского режима. Считаю необходимым предоставить слово очевидцам тех событий. Ниже предлагаются ссылки на видеозаписи — свидетельства очевидцев преступлений коммунистов в Беларуси.

Не могу представить человека, который после просмотра этих кадров сможет оправдывать преступный советский режим:

Документальный фильм «Лес смерти». В этом любительском документальном фильме, снятом в Гомеле, рассказывается о расстрелах мирных жителей Беларуси во времена СССР. В хронику, которая длится около 40 минут, вошли интервью с родственниками репрессированных и жителями деревень Гомельского района. Эти люди



рассказывают о расстрелах их родных в 1930-е годы, которые проводились отрядами НКВД недалеко от Гомеля. Кроме этого, видеоряд составляют кадры альтернативных поисковых работ, во время которых неизвестные нашли в земле гильзы от револьвера системы «Наган», кости и черепа с пробитыми пулями затылками.

Видеоархив бывших узников Гулага. На записях представлены фрагменты интервью с бывшими белорусскими политическими заключенными. Создатели Архива будут благодарны за информацию о людях, пострадавших в советские времена за политические или религиозные взгляды на территории Беларуси. Всех, кто имеет информацию и материалы по этой теме, имеет желание и возможность помочь в собирании материалов, приглашаем к сотрудничеству. (тел. 8 029 167-34-35)

«Белорусский Христианская демократия» призывает всех неравнодушных людей Беларуси, все демократические белорусские организации поддержать инициативу о признании 7 ноября Днем памяти жертв преступного коммунистического режима, днем памяти о геноциде белорусского народа преступным коммунистическим режимом.

Мы призываем в этот день чествовать память жертв коммунизма, распространять информацию о преступлениях правительства СССР в Беларуси.

Только до тех пор, пока в народе живет память о настоящих национальных героях, память о невинных жертвах наших предков, будет существовать и белорусская нация, будет жить Беларусь.




***Для справки***

Первые концентрационные лагеря появились не в нацистской Германии, а в Советском Союзе. В СССР впервые были официально узаконены массовые расстрелы мирных граждан без всякого судебного разбирательства.

Некоторые цитаты из высказываний коммунистических лидеров:

«Лучшее место для желтых забастовщиков, этих вреднейших паразитов — концентрационный лагерь». Газета «Правда», 12 февраля 1920 г.

Из оперативного приказа народного комиссара внутренних дел Союза С.С.Р. № 00447 об операции по репрессированию бывших кулаков, уголовников и др. антисоветских элементов.

30 июля 1937 года. Гор. Москва.

В качестве мероприятий для ближайшего периода провести следующее:

«1.Предложить ОГПУ репрессивные меры в отношении первой и второй категории кулаков провести в течение ближайших четырех месяцев (февраль-май), исходя из приблизительного расчета — направить вконцлагеря 60000 и подвергнуть выселению в отдаленные районы — 150000 кулаков; озаботиться принятием всех мер к тому, чтобы к 15 апреля эти мероприятия были осуществлены в отношении, во всяком случае, не менее чем половины указанного количества. Проведение этих мероприятий должно быть поставлено в зависимость от темпа коллективизации отдельных областей СССР и согласовано с краевыми комитетами ВКП(б).{…}



3.Ориентировочно, в соответствии с данными мест, установить по областям следующее распределение заключаемых в лагеря и подлежащих высылке:

Концлагерь/Высылка
Белоруссия 4-5 тыс./6-7 тыс.
Урал 4-5 тыс./10-15 тыс.
Сибирь 5-6 тыс./25 тыс.
Казахстан 5-6 тыс./10-15 тыс.»

«Чем большее число представителей реакционной буржуазии и реакционного духовенства удастся нам по этому поводу расстрелять, тем лучше. Надо именно теперь проучить эту публику так, чтобы на несколько десятков лет ни о каком сопротивлении они не смели и думать». Владимир Ленин, председатель СНК.

«Для расстрела нам не нужно ни доказательств, ни допросов, ни подозрений. Мы находим нужным расстреливать и расстреливаем. Вот и все». Гольдин, уполномоченный ВЧК в Кунгурской ЧК.

Приказ оперштаба Тамбовской ЧК, 1 сентября 1920 г.: «Провести к семьям восставших беспощадный красный террор. Арестовывать всех с 18-летнего возраста, не считаясь с полом, и если бандиты выступления будут продолжать, расстреливать их».

«Не ищите на следствии материала и доказательств того, что обвиняемый действовал делом или словом против советской власти. Первый вопрос, который вы должны ему предложить, какого он происхождения, воспитания, образования или профессии. Эти вопросы и должны определить судьбу обвиняемого». Мартын Лацис, нач. отд. ВЧК по борьбе с контрреволюцией.

«Революционная власть пролетариата есть власть завоеванная и поддерживаемая насилием пролетариата над буржуазией, власть, не связанная никакими законами». В.И. Ленин.

«Нет человека — нет проблемы». И.В. Сталин.

# БОГ

**Бог Сьвяты, Бог Усемагутны, Бог Прадвечны, Творца, Наш Госпад, Пан і Спадар – Тая найвышэйшая, трансцэндэнтальная Асоба, з багавейнага й сьвятарнага заміраньня перад Якой пачынаецца і сапраўднае адкрыцьцё Беларусі.**

Дрымотны, такі дрымучы й др «Сьвяты, Сьвяты, Сьвяты Госпад Бог Усеўладны, Які быў, ёсьць і будзе!» – напісана ў Бібліі (Адкрыцьцё 4:8).

«Над Богам няма нікога», спрадвеку кажуць у нас.

Беларуская нацыянальная ідэя ўсёй сваёй сутнасьцю зьвернутая да Бога як звышмэты. Да Таго Госпада Бога, Які стварыў гэтую зямлю, Які ўдыхнуў у нас жыцьцё, Які палюбіў сьвет настолькі, што аддаў Сына Свайго адзінароднага Ісуса Хрыста, у ахвяру за нашыя грахі. Сама Беларусь – вечнае імкненьне да Царства Божага.

Тыя, хто жыў на гэтай зямлі, тысячагодзьдзямі пакланяліся нейкім прыдуманым боствам. Але толькі пасьля таго, як тутэйшыя вызналі Бога Адзінага, на белым сьвеце зьявілася Беларусь – і беларусы.

Беларускі народ ня столькі рэлігійны, колькі Божы. Беларуская ідэя – гэта ня «З намі Бог!» і не «Беларусь па-над усім». Беларуская ідэя – гэта «Бог панад усім», а «Беларусь – з Богам.” Вера ў Бога й любоў да Бога, зь якімі беларус здольны палюбіць і бліжняга свайго, як самога сябе. «Бяз Бога людзі не памогa», «Бог ведае, хто як абедае», «Як трывога, то да Бога», «Едзеш у дарогу – памаліся Богу», «Ня думаў, не гадаў – а так Бог даў»... Усе гэтыя прымаўкі толькі паўтор напісанага: «За Госпадам, Богам вашым, сьледуйце і Яго бойцеся, запаведзі Ягоныя выконвайце, голасу Ягонага слухайцеся, і Яму служыце, і да Яго прыхінайцеся». (Другазаконьне 13:4)



Беларусам мацней, чым многім іншым народам, дадзена адчуць, што яны ёсьць вобразам і падабенствам Божым. Таму ў парадыгме нацыянальнае ідэі богаадступніцтва азначае і вырачэньне Беларусі, а найцяжэйшая праблема нацыянальнай самасьвядомасьці вынікае з таго, што мы чакаем Бога – але не шукаем Яго.

«На Беларусі Бог жыве...»

Так, Бог часта зьяўляўся ў Беларусі – адсюль і наша нацыянальная пакорлівасьць, і ахвярнасьць, і натхнёная духовасьць. Напрыканцы X ст., у абуджэньні XII ст., у Залатым веку, у найноўшых адраджэньнях душы Беларусі трапяталі, дыханьні зміралі й сэрцы здрыгаліся перад расхінутымі нябёсамі. Асабістая прысутнасьць Божая стварала Беларусь як краіну, як дзяржаву, як нацыю.

Бо гімн Беларусі – «Магутны Божа», што праслаўляе Бога-Айца.

Бо сьцяг Беларусі – бел-чырвонабелы сьцяг Хрыста, Бога-Сына.

Бо герб Беларусі – «Пагоня», увасабленьне Духа Божага.

Таму толькі той, хто напоўніцу ўсьвядоміў сябе беларусам, хто сапраўды спазнаў гэтую краіну, у бязьмежнай удзячнасьці, у захапленьні адкрыцьця, скрозь сьлёзы шчасьця зьвяртаецца да Яго:

Ойча Наш, існы ў нябёсах!  
Сьвяціся імя Тваё.  
Прыдзі Валадарства Тваё,  
Будзь воля Твая,  
Як на небе, так і на зямлі;  
Хлеб наш надзённы дай нам сёньня,  
І даруй нам грахі нашыя,  
Так, як даруем мы вінаватым прад намі,  
І не дапусьці да спакусы,  
Але збаў нас ад злога  
Бо твае і Валадарства, і сіла, і слава  
На векі вякоў. Амін. (Мацьвея 6:9-13)

Бог нездарма стварыў Беларусь тут, у сэрцы Эўропы. Бог грозны й строгі, Бог зорных галяктыкаў і палаючых сонцаў, Бог волі і ісьціны, такі ласкавы й міласэрны, поўны невымернае магутнасьці й непамыснае літасьці, менавіта тут уражвае Сваёй нясьцерпнай сьвятасьцю й пранізьлівым сьвятлом. Настолькі, што ўсёй істотай адчуваецца роднасьць Боскага й беларускага. Тут Бог наймацней змагаецца з д’яблам. І табе выбіраць, на чыім ты баку – бо наша сэрца ёсьць галоўнай арэнай бітвы.

Бо натхненьне звыш, асабістае перажываньне Бога, размова з Богам сам-насам і выпаўненьне волі Божае – гэта тое, дзеля чаго жыве Беларусь.



# 5 дней ожидания. История о спасённой жизни.

«Несладкая жизнь в детском доме. Долгожданная свадьба и своя семья. Рождение сына. Пристрастие мужа к алкоголю. Развод. Тест 2 полоски. Незапланированная беременность. Решение об аборте было принято сразу и без раздумий: я сирота с ребенком на руках, бывший муж не помогает, на государство надеяться не приходится.

Пришла в консультацию, единственное, что я услышала от врача это: «Знаете о последствиях аборта?». Я неуверенно кивнула головой и получила направление на аборт. Не отдавая себе отчета о том, к каким последствиям для моего здоровья может привести эта операция. Приехала на следующий день в консультацию и забыла паспорт, без которого аборт делать отказались. Утром поднялась температура, я вызвала врача, диагноз грипп. Я решила подлечиться и отложила поход в гинекологию до выздоровления. Пока сидела дома созвонилась с подругой, рассказала ей о беременности и решении сделать аборт, она пыталась меня отговорить и посоветовала посидеть в интернете и почитать о психологическом и физиологическом вреде аборта на здоровье женщины. 4 дня я не вылезала из интернета, перечитала множество форумов и медицинских статей. И ужаснулась - от медицинских терминов, методов проведения абортов и статистики, голова шла кругом. Оказывается, по данным акушерских клиник, из 1040 женщин, страдавших трубным вторичным бесплодием, у 594 оно развилось после аборта. Почему врач не рассказала мне о возможных последствиях? Почему…

Государство не заинтересовано в рождении детей? А как же демографическая ситуация, здоровье нации? Ведь от здоровья женщины зависит здоровье будущего поколения.

Сомнений не было – я буду рожать этого ребенка! Пусть одна, пусть некому помочь, но я была уверена, что найду в себе силы родить и воспитать его! Родилась дочь, маленькая симпатичная кроха смотрела на меня своими глазенками и моей радости не было предела! Спасибо забытому паспорту, моей простуде и людям, которые поддерживали меня в этот трудный период».

Это реальная история моей подруги… и моей крестницы Анны… глядя на эту резвую любопытную девчушку, не могу себе представить, что бы ее мама и все друзья их семьи делали без этого солнечного ребенка. Всего лишь информация и немного времени на размышление помогли спасти жизнь моей крестнице. Счастливый финал. Но у скольких женщин, у скольких семей всё окончилось по-другому?..

Что стоит внести в беларуское законодательство обязательный пятидневный период ожидания с момента подачи заявления о намерении сделать аборт до момента его проведения? Это не стоит ни рубля, но может спасти бесценную жизнь. За это время женщина сможет получить консультации специалистов, полную информацию о возможной помощи при сохранении беременности. Наконец, это время необходимо на спокойное обдумывание решения, которое повлияет на жизнь самой женщины, ее ребенка и ее семьи.

К слову, период ожидания с момента обращения до проведения операции по прерыванию беременности есть в законодательстве Германии и России, эта норма есть в законах большинства цивилизованных стран Европы.

Хочется, чтобы женщины в Беларуси не чувствовали равнодушие врачей, были информированы о последствиях аборта и чувствовали поддержку государства.

Хочется, чтобы беларуские дети доживали до момента рождения.

Именно поэтому я прошу всех неравнодушных людей Беларуси поддержать инициативу Белорусской Христианской Демократии о внесении изменений в Закон Республики Беларусь «О здравоохранении». Основные требования просты и понятны:

- обязательное размещение информации об опасности абортов и информации о религиозных и общественных организациях, занимающихся профилактикой абортов, в женских консультациях, поликлиниках, роддомах и других учреждениях здравоохранения;
- создать при каждом роддоме центр кризисной беременности с участием психолога и представителей религиозных конфессий. В обязательном порядке направлять женщин, пожелавших прервать беременность, на собеседование в указанный центр;
- ввести в практику медицинских учреждений по примеру развитых зарубежных стран обязательный пятидневный период ожидания с момента подачи заявления о намерении сделать аборт до момента его проведения;
- сократить срок для проведения аборта при отсутствии медицинских показаний до 7 недель;
- исключить социальные показания как основания для проведения абортов.

Подробнее о предложениях здесь: http://www.facebook.com/groups/abarona/

Аборт всегда накладывает глубокий отпечаток на всю последующую жизнь, даже если он прошел «благополучно».

Берегите себя и помните: дети рождаются на радость всем нам, а давать новую жизнь другому человеку - это настоящее счастье и подвиг.

Поставить подпись в поддержку данных предложений можно, связавшись по телефону 80291673435 либо связавшись по e-mail: ilovabelarus@gmail.com



## Шаноўныя браты і сёстры!

Калі Вы жадаеце атрымліваць бясплатную штомесяцовую рассылку БХД (чарговы нумар газеты «Крыніца«, буклеты, узоры для збору подпісаў і г.д) – калі ласка, паведамце нам праз пошту

**220123, г. Мінск, а/с 324**,

ці e-mail: **bchd.mail@gmail.com**

або тэлефон – **8 029 1673435 (Марына)**.

Незалежнае інфармацыйнае выданне
Заснавальнік і выдавец: цэнтр«Сьветач»
Надрукавана на ксераксе п. М.Кухты Наклад: 299 ас.
Галоўны рэдактар: Павал СЕВЯРЫНЕЦ

Аб'ём: 12 палосаў А4. Падпісана ў друк 17 лістапада 2012г.
Тыражаваньне і распаўсюд усімі зацікаўленымі асобамі дазваляецца і вітаецца.
Распаўсюд бясплатны.